# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 25 (643) Год XIII 23 ЧЭРВЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ЛІТАРАТУРНЫ ЮБІЛЕЙ

8-га чэрвеня споўнілася 10 год з дня заснавання беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы. З гэтай нагоды 9-га чэрвеня адбыўся ўрачысты сход членаў гэтага аб'яднання. Адкрыў яго старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Вінцук Склубоўскі. У сваім уступным слове прывітаў ён усіх удзельнікаў пасяджэння, потым аддаў голас старшыні літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» паэту Алесю Барскаму.

— Дзесяць гадоў таму назад, — гаворыць дакладчык, — пры рэдакцыі «Ніва» па ініцыятыве яе галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага было заснавана літаратурнае аб'яднанне групуючае паэтаў і празаікаў, якія пісалі на беларускай мове. Літаратурнае аб'яднанне было вынікам дзейнасці БГКТ і галоўным чынам дзейнасці «Нівы», стаўшай цэнтрам беларускага літаратурнага руху.

Мы, старэйшыя члены аб'яднання, памятаем гэтыя дні, дні вялікай трывогі, узрушанасці і надзеі.

За 10 год адбыліся дзесяткі семінараў, каля 500 аўтарскіх сустрэч. Правялося дзесяткі дыскусій, спрэчак, апублікавана некалькі тысяч лепшых і большых твораў. За гэты час у аб'яднанні змянілася некалькі праўленняў, змянілася яго назва і сядзіба.

Далей Алесь Барскі шырока характарызаваў працу гэтай арганізацыі, творчасць многіх паэтаў і празаікаў, падкрэсліў іх літаратурныя і мастацкія дасягненні, цікавую тэматыку многіх твораў, сталы рост майстэрства пісьменнікаў і вышэйшы мастацкі ўзровень чарговых альманахаў і паасобных зборнікаў.

— Гэта аднак не значыць, — гаварыў ён далей у дакладзе, — што нашы аўтары асвяцілі жыццё ў найбольш цікавых і шырокіх праявах, што адлюстравалі найбольш характэрныя канфлікты сучаснасці, што паказалі найбольш істотнае — пашукі і надзеі сучаснага беларуса ў Польшчы. Вялікая колькасць такіх цікавых праблем і з'яў, як пераход жыхара вёскі ў горад, працэс асіміляцыі. Або возьмем для прыкладу нядолю пакінутых бацькоў. Праблема неабстрактная, датычыць яна асабіста прынамсі паловы прысутных тут аўтараў. Гэта нядоля старых людзей незвычайная, бо не звязаная найчасцей з матэрыяльнымі цяжкасцямі, а з іх адзіноцтвам.

А ці хоць адзін наш аўтар заняўся перажываннямі і адчуваннямі старых КПЗБ-оўцаў, якіх яшчэ часта, але з кожным годам радзей, сустракаем сярод нас. Не паявіўся дагэтуль ніводзін твор, які пяшчотна перахоўвалі б дзяўчаты, які перачытвалі б юнакі, у які глядзелі б, як у крыніцу мудрасці, старыя.

У заключнай частцы даклада Алесь Барскі выказаў падзяку пачынальнікам беларускага літаратурнага руху ў Польшчы, ваяводскім партыйным уладам і культурным установам, якія дагэтуль прыхільна адносіліся да нашай дзейнасці, да нашых выданняў, а таксама выказаў пажаданне, каб наступныя 10-ць гадоў для «Белавежцаў» былі значна плённейшымі ад мінулага дзесяцігоддзя, каб новыя сябры сталіся членамі Саюза польскіх пісьменнікаў і каб адкрыўся беларускі аддзел гэтага Саюза.

(Працяг на стар. 5)



Глыбокая ноч, а ў студэнцкім інтэрнаце святло не гасне. Гарачая ў студэнтаў пара — экзамены.
Фота Э. Трыгубовіч

Быў вясенні, сонечны дзень. Уся прырода з вялікай радасцю будзілася да новага жыцця.

Аднак у прыёмнай храбалоўскага пункта аховы здароўя, як і ва ўсіх лекарскіх прыёмных, царстваваў мрочны настрой. Невялікі калідорчык запоўніўся пацыентамі ўзростам ад аднаго да... 80 год.

— Я тут працую ўжо дзевяць год. За гэты час змянілася ў нас трох лекараў і адзін фельчар. Былі па году часу, або ўсяго па некалькі месяцаў і ўцякалі або адклікаў іх адсюль аддзел здароўя. А вось гэты лекар, Мікалай Паплаўскі, працуе ўжо ў Храбалах чатыры гады. Усе яго тут хваляць. І сапраўды, гэта лекар з прызваннем.

## Лекар з Храбалоў

У 1967 годзе, для прыкладу, з парад храбалоўскага пункта скарыстала 2813 чалавек. 193 разы лекар выязджаў на хатнія візіты.

Храбалоўскі раён ахоплівае каля 6 тысяч чалавек. А гэта зараз якраз норма для вясковага пункта аховы здароўя. На Беласточчыне пад канец мінулага года было 151 такі пункт і 22 спулдзельні здароўя. На працягу 2 бліжэйшых гадоў, як сцвярджаюць у Аддзеле здароўя Прэзідыума ВРН, лік пунктаў аховы здароўя павялічыцца на Беласточчыне да 171. Тады з аднаго пункта будзе карыстаць каля 4 тыс. жыхараў. Гэта поўнасцю абяспечыць лячэбныя патрэбы вясковага насельніцтва.

Калі ўжо гаворым пра тое, што будзе, варта ўспомніць, што ўсяго 5 год таму назад у Беластоцкім ваяводстве працавала толькі 105 пунктаў аховы здароўя і 10 спулдзельняў. Значыць, прагрэс вялікі.

Але людзей, якія сабраліся ў прыёмнай храбалоўскага пункта, хвалюе толькі адна праблема: ці лекар паможа?

— О, доктар Паплаўскі напэўна паможа! — з глыбокім перакананнем адазваўся нейкі старэйшы дзядзька. — Я лечуся ў яго ўжо некалькі год. Каб не ён, даўно жаваў бы пясок у магіле.

— І добры ён які! — дабаўляе нейкая жанчына. — Чалавек вучоны, а да простых людзей адносіцца, як роўны да роўнага. Дакладна пра ўсё распытае, паслухае, параіць.

Гэтыя пахвальныя, аднабаковыя меркаванні крыху мяне насцярожылі. Пытаў тады іншых людзей пра храбалоўскага лекара. Медсястра храбалоўскага пункта Надзя Семянюк кажа:

Прывяду вам прыклад. Здарылася гэта зусім нядаўна. Ноччу прыехаў з Кнаразоў нейкі селянін. Разбудзіў доктара і кажа, што дзіця раптоўна захварэла. Доктар хутка апрануўся і паехаў на ратунак. Пасля некалькіх гадзін вярнуўся назад і толькі што заснуў, а тут зноў нехта бубніць у акно і просіць лекарскай дапамогі. Доктар мог бы яго адаслаць да хуткай дапамогі і далей спакойна спаць. Тым

(Працяг на стар. 4)



Лекар з Храбалоў Мікалай Паплаўскі, якога вельмі хваляць людзі.

А пошнім часам у друку штораз часцей пачалося паяўляцца пытанне: ці створана ў нас усе магчымасці для авансу сялянскіх дзяцей ва ўсіх галінах жыцця, у тым ліку і ў галіне навукі? І другое: ці сялянская моладзь карыстае з усіх магчымасцей, якія ёй стварае народная ўлада, а калі не карыстае, дык чаму? Пытанне ўзнікла з прычыны вельмі канкрэтнай: колькасць дзяцей рабочага, а перад усім сялянскага паходжання ў вышэйшых школах з года ў год змяншаецца. Турботы ўлад пра тое, каб супрацьдзейнічаць гэтаму змяншэнню знайшлі сваё выяўленне таксама ў вельмі канкрэтнай форме — у прывілеях падчас экзаменаў. Дзеці сялян так як і дзеці рабочых атрымліваюць пры уступных экзаменах на вышэйшыя навучальныя ўстановы дадатковыя пункты, якія маюць выраўняць няроўнасць старту гэтай моладзі вынікаючую з ніжэйшага інтэлектуальнага ўзроўню асяроддзяў, з якіх моладзь гэтая выводзіцца.

Такім чынам цяжкасць экзаменаў перастае быць тормазам ва ўступанні сялянскай моладзі на ўніверсітэты. Ці з вялікага шансу грамадскага авансу, які гэтым чынам стварылася сялянскай моладзі, у тым ліку і моладзі беларускай — скарыстае яна ў належнай меры? Можна ў тым сумнявацца?

Сумненні вынікаюць з назіранняў над найбольш папулярнымі ўзорамі авансу ў нашых вёсках. Нашыя мары аб авансе наогул скромныя, а ў сапраўднасці гэта не мары, а проста жыццёвыя планы, лёгкія зрэшты да

## ПЕРСПЕКТЫВЫ НАШАГА АВАНСУ

зрэалізавання. Амаль ніхто не марыць зараз на вёсцы, каб яго сын быў, для прыкладу, вучоным, прафесарам, вялікім мастаком ці юрыстам. Плануецца затое вывучыць сына механікам, настаўнікам, аграномам, шафёрам і гд. Праявы такога становішча бацькоў відаць вельмі рана, якраз тады, калі дзеці знаходзяцца яшчэ пад поўным іх уплывам — пры заканчэнні пачатковай школы. Перад кожным закончыўшым гэтую школу стае пытанне: што рабіць далей? Зараз можна ўжо менш-больш акрэсліць намеры сёлеташніх выпускнікоў пачатковых школ. З інфармацыі атрыманай у некалькіх школах Гайнаўскага павета вынікае, што выразна паменшваецца зацікаўленне сялянскіх дзяцей агульнаадукацыйнымі школамі. Вядома тымчасам, што якраз агульнаадукацыйныя школы і ёсць па тое, каб падрыхтоўваць кандыдатаў не да нейкай акрэсленай прафесіі, а да далейшай вучобы на вышэйшых навучальных установах. Змяншэнне сялянскіх дзяцей у агульнаадукацыйных ліцэях абазначае ў будучыні змяншэнне сялянскіх дзяцей на універсітэтах ды палітэхніках.

Пяройдзем аднак да прыкладаў. У Новаберазове пачатковую школу ў мінулым годзе закончыла 22 чалавек, —

(Працяг на стар. 3)

# ДВА БРАТЫ

Два родныя браты: адзін — Тадэуш Мірон, другі — Станіслаў Мірон. Абодва яны з'яўляюцца актыўнымі дзеячамі ЗСЛь у Гуранах.

Тадэуш Мірон з'яўляецца сакратаром грамадскага камітэта ЗСЛь. Камітэт залічаецца да аднаго з лепшых у павеце. Ён многа ўвагі ў сваёй дзейнасці звяртае на развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі.

Станіслаў Мірон з'яўляецца прэзасам гуртка ЗСЛь у Гуранах. Гурток ЗСЛь налічвае 16 членаў. Усе ЗСЛь-оўцы з'яўляюцца членамі сельскагаспадарчага гуртка. Станіслаў мае функцыю малацільшчыка і кожны год для сельгасгуртка прыносіць шмат даходу. Пад яго кіраўніцтвам гуранскі гурток ЗСЛь мае добрыя вынікі ў палітычна-выхаваўчай працы і з'яўляецца ініцыятарам многіх гаспадарчых пачынанняў.

(мх)

# ПАДСЛУХАНА

Сторож складу ГС у Нарве стаіць паміж мяшкамі са збожжам, задраў галаву і п'е піва з бутэлькі. Глядзіць на яго знаёмы гаспадар і кажа:

— Не дуй так піва, а то полап праб'еш.

Сторож адказвае:

— Нашто мне прабіваць, і без таго ў складзе хоць рыбу заводзь...

Паміж мяшкамі калужыны вады, якую называюць рыбнымі ставамі. Збожжа «расце» і тлее.

Якія гэта будаўнікі пабудавалі склады, дзе падглебавая вада залівае склады збожжа? Гаспадарам баліць сэрца, гледзячы, як прападае праца іх рук, збожжа, якога не маем так многа, каб бесклапотна гнаіць яго! (ся)

# СВЯТЛО

Вядома, як прыемна і выгадна, калі вясковая вуліца электрыфікавана. На жаль, у час электрыфікацыі сялянскіх забудаванняў рэдка калі ў нас электрыфікаваліся вуліцы. Сяляне ў Крывой пастанавілі на ўласны кошт электрыфікаваць сваю вуліцу. Вырашылі скласціся па 100 злотых ад гаспадара. Уся бяда ў тым, што, як гэта часта бывае, не хапіла гаспадарам салíднасці. 14 гаспадароў на чале з Паўлам Сідаруком, Сцяпанам Васілюком, Якубам Козакам не гледзячы на частае прыпамінанне, не выканалі сваіх забавязанняў. І таму на вуліцы ў Крывой надалей цёмна. (п)



Белавежа. У Палацовым парку.
Фота Г. Рагазінскі

# Белавежскі Нацыянальны парк у зборнай манаграфіі

Пахваліцца магу. Я, ніжэй падпісаная, пісала ўжо аб манаграфіі Белавежскага Нацыянальнага парку два гады таму. Мая інфармацыя ў «Ніве» была першай. А цяпер, і нарэшце, перада мной ляжыць яна, гатовая, прыгожа выдадзеная, яшчэ пахне друкарскай фарбай.

Змест гэтай кніжкі прыносіць найбольш поўны вобраз Белавежскай пушчы ў форме сярэдне-папулярнай. Складаецца праца з частак:

I — агульныя веды аб Белавежскай пушчы (яе граніцы, гісторыя),
II — прырода Белавежскай пушчы,
III — лясная гаспадарка ў Белавежскай пушчы,
IV — Нацыянальны Белавежскі парк
V — Белавежская паляна (яна займае цэнтральнае палажэнне ў пушчы і на ёй малаяўніча распалажылася Белавежа)
VI — значэнне Белавежскай пушчы для навукі і культуры,
VII — індэксы (спіскі ў алфавітным парадку):

1. назваў раслін
2. назваў звяроў
3. назваў геаграфічных пушчанскіх раёнаў
4. назваў асоб.

Змест манаграфіі пададзены на трох мовах: польскай, рускай і англійскай. Таксама і загаловак.

80 старонак прысвечаны ілюстрацыям пушчы з вельмі шырокім аўтарскім кругам фатаграфікаў.

Акрамя такіх слоў, звязаных з Белавежай, як **Ул. Пухальскі ці Я. Гэрэзняк,** захапляюць здымкі аўтараў з Белавежы — навуковых працаўнікоў Белавежскіх інстытутаў. Здымкі схопленыя як бы знянацку (глядзі фота 4, 70, 97, 99, 120, 121, 122).

Не згубіцеся ў пушчы ўжо дзякуючы дакладным картам **Нэлі Альшэўскай,** якіх у кніжцы многа і розных (гл. рыс. 2, 3, каляровую ўкладку пад рыс. 54, 57, 58, 59, 61).

Манаграфія групуе артыкулы 23 аўтараў, 23 спецыялістаў, якія «разабралі» пушчу на часткі, заглянулі ў кожны яе куток, каб на старонках сваёй кніжкі паказаць далёкаму і блізкаму чытачу яе багаты і поўны вобраз.

Праца выйшла пад рэдакцыяй дац. др **Януша Багдана Фалінскага** кіраўніка Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта і таксама старшыні Таварыства прыяцеляў Белавежы.

Яму даем зараз голас:

«Кніжка, якую аддаем у рукі чытача, з'яўляецца пробай прыродазнаўчай манаграфіі Белавежскай пушчы. Не хочучы выйсці за рамкі прыродазнаўчай манаграфіі, палічылі мы аднак патрэбным прадставіць усе аспекты пушчанскай праблематыкі, якія, хоць не маюць прыродазнаўчага характару, аднак звязаны з пушчай. Таму толькі месца аб белавежскіх навуковых доследах, аб дыдактычных мажлівасцях пушчы, інфармацыі аб стане і перспектывах турыстыкі, сувязях з нацыянальнай культурай.

Зрабілі мы нямала, каб сарыентаваць чытача, як захавана пушчанская прырода. Тое, што ацалела з пушчы, усё яшчэ годнае ўвагі і апекі больш, чым які іншы лясны камплекс на еўрапейскай нізіне...

Спадзяемся, што кніжкай гэтай хоць часткова рэалізуем заказы Таварыства прыяцеляў Белавежы».

**Park Narodowy w Puszczy Białowieskiej**
**Praca Zbiorowa pod redakcją Janusza Bogdana Falińskiego**
**Państwowe Wydawnictwo Rolnicze i Leśne**
**Warszawa 1968**
**str. 504**
**cena 75 zł**

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

# Лекар з Храбалоў

(Працяг са стар. 1)

больш, што раненька яму трэба было ехаць у Беласток на нейкі курс. Аднак доктар Паплаўскі і на гэты раз паехаў да хворага. Калі вярнуўся дамоў, не было ўжо часу, каб распранацца і адпачываць, адразу пайшоў на ПКС.

Хто ён тады, гэты лекар Мікалай Паплаўскі? Нарадзіўся ў вёсцы Тапаляны, вырас у Міхалове, куды яшчэ да вайны перабраўся бацька. Там закончыў агульнаадукацыйны ліцэй, а затым у 1955 годзе паступіў у Беластоцкую медыцынскую акадэмію. Закончыў яе ў 1961 годзе і тады накіравалі яго на стажыроўку ў Бельскую павятовую бальніцу.

— Прапанавалі мне, каб я астаўся працаваць у Бельскай бальніцы, — гаворыць ён. — Але я выбраў вясковы пункт аховы здароўя.

— Чаму? — пытаю не без здзіўлення.

— Перш за ўсё таму, што тут у Храбалах я адчуваю сябе больш свабодна і маю самастойную, хаця адказную працу. А з бельскай бальніцай і так утрымоўваю пастаянны кантакт. Пад кіраўніцтвам доктара Аляксандра Мадзэлеўскага раблю зараз спецыялізацыю па інтэрністыцы. Таму два разы ў тыдзень працую ў бальніцы. Затым раз у месяц маю дзяжурства ў бельскай хуткай дапамозе.

Тады, калі Мікалай Паплаўскі распачынаў сваю прафесіянальную працу ў Храбалах, у вёсках Беластоцкага ваяводства працавала 94 лекары. Зараз у вясковых пунктах аховы здароўя працуе 152 лекары.

— Як праходзіць ваш рабочы дзень?

— Як самі бачыце, прымаю тут хворых, але гэта не асноўнае. Найважнейшае ў працы вясковых пунктаў здароўя — гэта прафілактыка, забеспячэнне перад хваробамі. Цяжарных жанчын і дзяцей да аднаго года жыцця лечым бясплатна. Маем для іх спецыяльны рэестр і лічым нашым абавязкам наведаць кожнае нованароджанае дзіця, пабачыць, у якіх умовах яно гадуецца, параіцца, як сцерагчы яго перад хваробамі. Бясплатна таксама лечым школьнікаў. Паддаем іх лекарскаму агляду прынамсі два разы ў год. Затым праводзім масавыя забеспячальныя лекарскія прывіўкі (шчэпеня). Нядаўна праводзілі мы лекарскі кантроль усіх жанчын. Работы, як бачыце, хапае.

— А як вы сябе тут адчуваеце?

— Зусім добра, — коратка адказвае лекар. — У маім раёне значна паменшылася смяротнасць сярод малых дзяцей, заўважальна папрavілася асабістая гігіена і разуменне асноўных праблем аховы здароўя. Мяркую тады, што мая праца не асталася дарэмнай. Дык чаго больш лекару трэба? Толькі неяк не магу дабіцца, каб мясцовыя ўлады агарадзілі наш пункт. Стаіць ён, як карчма. Свінні, гусі і падводы падыходзяць пад вокны і дзверы. І гавары тут людзям пра гігіену.

**В. Рудчык**

**М. ЯНКОЎСКІ**

БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ "У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Вайна!.. Колькі зместу ў гэтым невялікім слове, якое сканцэнтравала ў сабе ўсе віды вырашэння канфліктаў сілай зброі за кошт жыцця соцень, тысяч і мільёнаў людзей! Многа напісана аб ёй і многа пішуць, і ўсё ж вельмі цяжка выразіць словам усе душэўныя перажыванні людзей, якія сыходзяцца на полі бою з жаданнем перамогі і бясстрашшам перад смерцю. Вайна 1941—1945 гадоў ускалыхнула ўсё чалавецтва, сабрала ў Еўропу і на Далёкі Усход велічныя арміі з дзясяткамі мільёнаў людзей і ў сваім крывавым горніле рашала пытанні жыцця і смерці дзвюх грамадскіх фармацый.

Нельга і немагчыма апісаць у адным творы гэтыя вялікія сусветныя падзеі, ды я і не стаўлю перад сабой такой задачы. Па Еўропе і Азіі прайшла віхура падобна акіянскаму смерчу. Землі Польшчы і Беларусі былі эпіцэнтрам гэтай крывавай завірухі, і нашы народы панеслі ў час яе найвялікшыя страты. У мяне ёсць некаторыя магчымасці расказаць, на колькі мне ўдасца, аб падзеях у гады Вялікай Айчыннай вайны на невялікім, але даволі вядомым кусочку зямлі нашых краін і ўсёй планеты — Белавежскай пушчы.

## I.

Полымя партызанскай вайны шугала над Беларуссю. Зямля гарэла пад нагамі ворага. У Белавежскай пушчы і на тэрыторыі Польшчы гітлераўцы ўсімі сіламі і сродкамі тапілі ў крыві народны рух праследуючы мэту навечна далучыць гэтыя землі да карэннай Германіі і засяліць іх «вышэйшай расай» — чыстакроўнымі арыйцамі. Людзі падніmaліся на барацьбу, а іх вешалі і стралялі, палілі ў крэматорыях канцэнтрацыйных лагераў.

Беларускі народ рашыў аказаць дапамогу брацціям па барацьбе. Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі ў жніўні месяцы 1943 года прыняў пастанову аб дапамозе партыйнай арганізацыі Беласточчыны ў развіцці партызанскага руху. Кіруючыся гэтай пастановай Беларускі Штаб Партызанскага руху вылучыў з партызанскага злучэння Мінскай вобласці больш тысячы добра ўзброеных і закаленых у баях партызан і перадаў іх у распараджэнне Беластоцкага падпольнага абкома партыі. Начальнікам Штаба партызанскага злучэння Беластоцкай вобласці быў назначан генерал-маёр Піліп Піліпавіч Капуста, а яго намеснікам капітан Сінкевіч. Атрад «За Радзіму», якім я тады камандаваў, таксама быў уключаны ў гэтую баявую адзінку.

1 верасня 1943 года пачаўся баявы рэйд з Капыльшчыны да берагоў Заходняга Буга і Аўгустоўскіх лясоў. Усе партызаны ведалі свайго камандзіра, генерала Капусту, як добрага і баявога таварыша, смелага, знаходлівага і адважнага чалавека. Адначасова камандна-палітычны склад злучэння разумеў, што дзеянні ў той мясцовасці патрабуюць не толькі ваеннага майстэрства і адвагі. Нам было вядома, што так званы, лонданскі эміграцыйны ўрад глыбока пусціў свае карэнні на ўсёй тэрыторыі Беласточчыны.

Сакратар Беластоцкага падпольнага абкома партыі Васіль Емяльянавіч Самуцін на адным з адпачынкаў у час баявога рэйду раз'ясніў камандна-палітычнаму складу злучэння і партыйна-камсамольскаму активу задачы, якія паставіў перад намі Цэнтральны Камітэт КП(б)Б і Беларускі Штаб Партызанскага руху. З прыходам на Беласточчыну мы былі абавязаны сістэматычна, глыбока і настойліва вывучаць з насельніцтвам палітыку Камуністычнай партыі нашай краіны і Польскай рабочай партыі ў пытаннях вайны і міру і шырока весці баявую, палітыка-масавую і арганізацыйную работу па з'яднанню ўсіх слаёў народа на барацьбу супроць нямецкіх захопнікаў.

У лясных масівах паўднёвей Баранавіч, між рэкамі Шчара і Ясельда, самалёты з Вялікай зямлі скінулі нам зброю, боепрыпасы, тол, міны, медыкаменты і ўсё неабходнае для дзеянняў у глыбокім тылу ворага. 21 кастрычніка з боем фарсіравалі чыгунку Брэст - Мінск паўднёвей Картуз-Бярозы і прышлі на свае зыходныя пазіцыі ў Ружанскую пушчу. Тут партызанскі атрад «За Радзіму», якім я камандаваў, быў узбуйнены ў партызанскую брыгаду «У імя Радзімы». Мяне назначылі камандзірам брыгады, а Мікалая Іванавіча Чуркіна — камісарам. З дзвюх рот былі створаны атрады імя Кутузава (камандзір Яўген Кульбіцкі) і імя Багдана Хмяльніцкага (камандзір Васіль Бакума).

Абком партыі выдзеліў нашай брыгадзе зону дзеяння. У яе ўваходзіла ўся Белавежская пушча, Гайнаўскі, Бельскі, Бранскі, Чыжэўскі і Лапскі раёны. Было зацверджана бюро Лапскага падпольнага міжрайкома партыі ў складзе ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б тав. Кундовіча Віталія Вікенцьевіча,

# ВАРТА ПЕРАДУМАЦЬ



**Трасцяніцкія СПР-аўцы на практычных занятках ля школы.**

СПР у Трасцянцы ў гэтым годзе не мае вялікай колькасці вучняў. Прычын многа, але адна з іх здаецца быць найважнейшай — маладыя людзі на вёсцы не надта хочуць ісці ў СПР вучыцца. Зразумела, кожны мае свае жыццёвыя мары і згодна з тым укладае планы, і таму нельга каму-небудзь вытыкаць, што не хоча вучыцца ў СПР. Здаецца, аднак, што часта і бацькам і абсальвентам пачатковых школ да мараў не хапае здаровага розуму. Пастараемся хаця ў нейкай меры даказаць наша сцверджанне.

Янка Тапалянскі, кіраўнік СПР у Трасцянцы, даказвае, што **абсальвенты СПР маюць найбольшыя шанцы дастацца на навуку ў тэхнікумы.** А з другога боку ведаем, што ўсім абсальвентам пачатковых школ дастацца ў тэхнікумы нематчыма. Доказам з'яўляецца таксама факт, што ў Беластоцкім ваяводстве існуе аж 11 тэхнікумаў, якія прыймаюць кандыдатаў пасля заканчэння СПР, калі для абсальвентаў іншых прафесіянальных, 2—3-гадовых, школ ёсць толькі 6 тэхнікумаў (лікі датычаць стацыянарных тэхнікумаў).

Як прыклад можна прывесці і іншы факт з Трасцянкі. У мінулым годзе закончыла тут СПР 16 абсальвентаў. А вось іх далейшы лёс: 3 — вучыцца ў Познанскім ваяводстве, 1 — у эканамічным тэхнікуме, 1 — у будаўляным тэхнікуме, 4 — у завочных тэхнікумах, 2 адбыло ў Познанскім ваяводстве стаж працы і зараз лічацца выкваліфікаванымі рабочымі. **Адным словам, тыя з абсальвентаў, хто хацеў вучыцца далей, усе паступілі да стацыянарных трохгадовых тэхнікумаў.**

Іменна трохгадовых. Гэта наступны доказ на карысць СПР. Два гады вучань вучыцца на месцы або амаль на месцы. Гэта прыносіць не толькі эканомію не малых грашовых сродкаў на навуку ў горадзе, але часта і здароўе вучню. А ўсё гэта патрабуе менш клопатаў наогул з боку бацькоў. Наступныя **толькі тры гады вучань знаходзіцца ў тэхнікуме.** А тры гады ўтрымоўваць напэўна лягчэй, чым нармальна 5 год.

Можна прыводзіць і іншыя доказы, але справа не толькі ў прыкладах, але перш за ўсё ў здаровым розуме бацькоў, а затым і саміх абсальвентаў пачатковых школ, якія немаведама чаму часта лічаць СПР як астатковасць і ідуць сюды вучыцца амаль пад прымусам.

**А. К.**
Фота аўтара

# Жывёлагадоўля

У мінулым годзе на 100 га зямельных угоддзяў у Дуброўскім павеце выпадае 39,6 штук быдла і 78,8 свіней. А ў грамадзе Ружаны Сток па 45,8 штук быдла і 86,3 свіней.

А калі разыходзіцца аб паасобныя вёскі грамады, дык лікі гэтыя значна большыя. Вось, напрыклад, у Грэбянях на 100 га зямлі гадуецца 46,3 штук быдла і 102 штукі свіней, а ў Ячне яшчэ больш, бо 59 штук быдла і 121 штука свіней. Гэта ўжо дасягненні ў жывёлагадоўлі сапраўды вялікія.

# Добрая традыцыя

Сяброўскія сувязі існуюць даўно паміж беластоцкімі і гродзенскімі журналістамі. Яны сустракаюцца на граніцы, наведваюць адны другіх. Адным словам, сябруюць. Такім сяброўскім візітам і была апошняя паездка беластоцкіх журналістаў (Р. Краські — сакратара «Беластоцкай газеты», Л. Кубіцкага — рэдактара маладзёжных перадач беластоцкага радыёвяшчання і Г. Валкавыцкага — галоўнага рэдактара «Нівы») у Гродна. Беластоцкія журналісты прабылі на Гродзеншчыне ад 3 да 7 чэрвеня. Пазнаёміліся яны з Гроднам, Лідай і Смаргонню, пабывалі ў калгасах «Прагрэс» і «Расія», пазнаёміліся з саўгасам «Тарнова». Адведалі таксама сталіцу Беларусі — Мінск і пабывалі над чароўным возерам «Свіцязь».

Пасля вяртання нашай дэлегацыі ў родныя рэдакцыі, беластоцкія журналісты прымалі сваіх калег з Гродна і, у сваю чаргу, знаёмілі іх з Беласточчынай.

## Дзяржаўны фонд зямлі

У Гайнаўскім павеце Дзяржаўнага фонду зямлі налічваецца 4870 га. Значную частку гэтых зямельных угоддзяў апрацоўваюць сяляне аднаасобнікі. Сельскагаспадарчыя гурткі абсяваюць 412 га ДФЗ. (М. На)



**ПАШТОЎКА СА ЗБУЧА.** Фота Ул. Паўлючука

камісара атрада імя Кутузава Кныша Івана Пятровіча і мяне. Для пераходу ў сваю зону дзеяння брыгадзе неабходна было прадоўжыць баявы рэйд з Ружанскай пушчы ў Рудакоўскі лес на Заходнім Бузе.

Перад выхадам было праведзена пашыранае пасяджэнне Лапскага міжрайкома партыі пад кіраўніцтвам яго сакратара тав. Кундовіча. На пасяджэнні прысутнічаў сакратар Беластоцкага падпольнага абкома камсамола Трахім Стрыжан. Тав. Стрыжан паведаміў мяне, што ў Свіслацкай дачы Белавежскай пушчы летам 1943 года дзейнічаў партызанскі атрад імя Калініна (камандзір Сяргей Сцяпанаў). З гэтым атрадам тут быў упаўнаважаны ЦК КП(б)Б Даніла Сукачоў, які правёў значную работу па аб'яднанню ў адзіную сістэму і накіраванню да адзінай мэты створаных на Беласточчыне мясцовымі камуністамі і актывам антыфашысцкіх камітэтаў. Нам неабходна было прадоўжыць пачатую імі работу з мэтай стварэння новых партызанскіх атрадаў з мясцовага насельніцтва. Пакуль мы прышлі сюды Даніла Сукачоў з атрадам імя Калініна, па некаторых тактычных меркаваннях, перайшоў у Ліпічанскую пушчу.

Для арганізацыі работы сярод моладзі ў раёнах дзеяння бюро зацвердзіла склад Лапскага міжрайкома камсамола на чале з Софіяй Францкевіч. Іван Пятравіч Кныш быў зацверджан рэдактарам падпольнай газеты «Сцяг Перамогі», органа міжрайкома партыі. На гэтым жа пасяджэнні была прынята пастанова па майму дакладу «Аб ахове расліннага і жывёльнага свету Белавежскай пушчы, як запаведніка сусветнага значэння».

Усходняя ўскраіна Белавежскай пушчы была часткай мяжы, на захад ад якой усе землі немцы лічылі ўласнасцю Германскай імперыі, бо для Гітлера Польшча, як дзяржава, і палякі, як народ, больш не існавалі. Вось па гэтай Усходняй мяжы Трэцяга Рэйха мы і выйшлі ў баявы паход да сваёй зоны дзеяння. Вечарам 1 лістапада прайшлі дарогу праз Белае балота, прасёлачнымі шляхамі, ужо ноччу, мінулі бязлесную мясцовасць і на світанні былі між Шэрашоўскім лесам і Белавежскай пушчай.

Фашысты разумелі сусветна-гістарычнае і навуковае, эканамічнае і стратэгічнае значэнне пушчы і рашылі любой цаной утрымаць яе ў сваіх руках і не дапусціць тут да развіцця партызанскага руху. Размеры пушчы даволі працяглыя: 56 кіламетраў з захаду на ўсход і 53 кіламетры з поўначы на поўдзень. Плошча яе 159 тысяч гектараў. На яе шырокіх палянах было каля 30 вёсак. Паабапал рэк Нарвы і Нараўкі раскінуты пракосныя лугі. А ў самым цэнтры пушчы размешчаны пасёлак гарадскога тыпу Белавеж. Вакол пушчы раскінута густая сетка вёсак, а на заходняй яе ўскраіне — горад Гайнаўка, які злучан чыгункай з Белавежжу. Ад Гайнаўкі на ўсход, праз Белавеж, усю пушчу перасякае шасейная дарога. У заходняй яе частцы — густая сетка вузкакалейных чыгунак.

Вёскі на палянках пушчы былі даволі зручнымі для прытулку воінаў Чырвонай Арміі, якіх абставіны прымусілі застацца ў тылу ворага. І не гледзячы на густую сетку дарог Белавежская пушча была спрыяльным месцам для развіцця партызанскага руху. Для перасцярогі ад гэтага па ўказанню з Берліна, у Белавежы быў сфармаваны буйны, добра ўзмоцнены і добра ўзброены гарнізон з добрых эсэсаўскіх галаварэзаў, а вакол граніц пушчы фашысты размясцілі 28 гарнізонаў, пабудавалі шырокую сетку бетонных і земляных умацаванняў уздоўж чыгуначных і шасейных дарог. Амаль усе населеныя пункты на яе палянах фашысты зраўнялі з зямлёй. Пушча стала бязлюднай. Гітлер і яго фельдмаршал Герынг загадалі стварыць тут базу для паляванняў кіраўнікам Трэцяга Райху. У 1752 годзе тут паляваў польскі Аўгуст III з курфюратам саксонскім, у 1860 годзе — імператар Аляксандр II з яго вялікасцю прынцам Карлам Прускім. Дык чаму ж, меркаваў фюрэр, і яму не скарыстаць для забаў гэтыя цудоўныя, багатыя дзічынай мясціны.

Нашы партызаны ведалі, што ідуць не ў звычайны лес, якіх многа на Беларусі і ў Польшчы, а ў дзяржаўны запаведнік сусветнага значэння.

Працяг будзе

# Літаратурны юбілей

(Працяг са стар. 1)

— Хацелася б ад імя ўсіх членаў нашай арганізацыі запэўніць улады, што мэты нашай творчасці змяшчаюцца ў праграме Фронту адзінства народа, што наша творчасць і, ў далейшым будзе накіравана ў напрамку як найшырэйшай ілюстрацыі жыцця Беласточчыны, што, выступаючы за поўную інтэграцыю, будзем пашыраць ідэі польска-беларускай дружбы і супрацоўніцтва.

Пасля даклада Алеся Барскага разгарнулася шырокая дыскусія.

Георгі Валкавыцкі расказаў аб працы над зборнікам «Белавежцаў», які выдаецца ў Мінску, аб людзях, якія намагаюцца, каб кніжка была выдана прыгожа.

Галоўны рэдактар «Нівы» звярнуў увагу на недахоп у нас літаратурнай крытыкі і прапанаваў, каб гэтым заняліся працаўнікі кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

Прадстаўнік гэтай кафедры Мікола Врублеўскі запэўніў, што ён і іншыя працаўнікі кафедры за гэту справу возьмуцца.

Мікола Гайдук запрапанаваў, каб пісаць гадавыя агляды літаратурнай дзейнасці аб'яднання «Белавежа» і змяшчаць іх у беларускім календары. Далей ён звярнуў увагу на неабходнасць выдання кніжкі для школьнай моладзі нашкталт кніжкі «Мой родны кут». «Я нават узяўся б грамадска падрыхтаваць зборнік твораў», — заявіў Мікола Гайдук. Прапанаваў ён таксама як найхутчэй выдаць два творы Сакрата Яновіча, якія, як сцвярджаў, напісаны цікава і па-мастацку.

Віктар Швед, між іншым, падкрэсліў вялікую папулярнасць на Беласточчыне аўтарскіх сустрэч. «За адну паездку на Беласточчыну разышлося 500 маіх зборнікаў «Жыццёвыя сцежкі».

Уладзімір Юзвюк расказаў прысутным аб фінансавых выдавецкіх магчымасцях ГП БГКТ.

На сходзе было пастаўлена, што да чарговага Альманаха трэба даслаць аўтарам свае творы да 30-га верасня. Выбрана таксама рэдкалегію Альманаха, у склад якой увайшлі: Алесь Барскі, Георгі Валкавыцкі, Мікола Гайдук і Сакрат Яновіч.

У юбілейным Сходзе ўзяла ўдзел пасол у Сейм старшыня Беластоцкага таварыства культуры — рэдактар квартальніка «Кантрасты» — Крыстына Маршалэк. У сваім выступленні павіншавала яна «Белавежцаў» і падкрэсліла запачаткаваную справу — выдання кніжак дзвюхмоўных, дзе друкаваліся б творы польскіх і беларускіх аўтараў. У мінулым годзе быў выданы такі зборнік пад загалоўкам «Кшталт мыслі». «Варта супольна падумаць, — гаварыла яна, — і аб далейшых выданнях. У «Кантрастах» таксама ўжо друкаваліся матэрыялы членаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

Пасля сходу адбылася вечарына з традыцыйнай «лямпкай віна» з нагоды юбілейнай даты.

**М. Хмялеўскі**

# 23. VI. ФЕСТЫН У РЫБАКАХ

23 чэрвеня ў Рыбаках (Беластоцкі павет) адбудзецца фестын, арганізаваны аддзелам БГКТ у Міхалове і Павятовым праўленнем Лігі абароны краіны. Прадбачваецца багатая мастацкая частка. Выступяць: «Лявоніха», мастацкія калектывы школьнікаў і Дома культуры з Міхалова (СОМ). ЛОК арганізуе «матацыклавы злёт», спатканне з матросамі, паказ спраўнасці пажарнай каманды з абароннымі элементамі. Будзе фантавая латарэя, «стшэльніца» і іншыя цікавыя мерапрыемствы. Да гэтага фестыну далучыцца аддзел БГКТ у Гарадку разам з мастацкай часткай. Апрача таго будзе забава. Буфет на месцы.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Апошнім часам свет устрывожаны ростам уплываў неагітлерызму ў Заходняй Германіі. Яшчэ ў лістападзе 1967 года ўвесь свет стаў сведкам таго, як узняўся з магілы самы змрочны раздзел германскай гісторыі: у горадзе Ганавер адбыўся з'езд заходненямецкай нацыянал-дэмакратычнай партыі.

«Падабенства з Гітлерам і яго нацыстамі да таго вялікае, што гэта пачынае выклікаць трывогу», — пісала 13 лістапада 1967 года брытанская газета «Дэйлі мірар». Праз дзень пасля парыжская газета «Фігаро» дадала: «Адольф II крочыць. Падобна, што пан фон Тадэн як наследнік Гітлера думае нават перасягнуць яго ў сваіх патрабаваннях».

Спрыяе гэтакай дзейнасці нават атмасфера выхавання ў заходненямецкіх школах. Напрыклад, на адной са старонак падручніка геаграфіі вучням даецца заданне склеіць карту Германіі. Уся справа ў тым, што гэта Германія мае граніцы з 1937 года. Падручнік гісторыі, выпушчаны ў 1964 годзе, прысвячае Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі толькі адзін сказ, прытым ад пачатку да канца няпраўдзівы. Вось ён, гэты сказ: «Рускі народ узняўся на крывавую рэвалюцыю, забіў цара і развязаў грамадзянскую вайну».

Усім гітлераўскім пісьменнікам, якія жывуць у Заходняй Германіі, не забаранялася і не забараняецца выкладаць свае думкі ў кніжках. Падобна нават на тое, што іх выказванні лічацца




асабліва карыснымі для выхавання салдат бундэсвера (заходненямецкай арміі). Газета «Форвертс» паведамляла 18 мая 1967 года аб тым, што не больш і не менш чым восем вядомых музыкантаў былой арганізацыі «гітлерюгенд» з'яўляюцца цяпер аўтарамі зборніка песень для бундэсвера, надрукаванага на кошт міністэрства абароны. Заходненямецкі штотыднёвік «Шпігель» канстатаваў 3 красавіка 1967 года, што ў бундэсверы адно пакаленне гітлераўскіх афіцэраў змяняецца другім. «Гітлераўскія генералы ў бундэсверы перавяліся, вымiраюць і апошнія палкоўнікі. Да ўлады прыходзяць маёры». Становіцца зусім зразумелым той факт, што ў выхаванні бундэсвера адводзіцца вялікая роля імёнам, такім мілым сэрцу вярхушкі бундэсвера. Напрыклад, адной з казарм бундэсвера прысвоена імя фашысцкага генерала Гудэрыяна. У 1944 годзе ўваходзіў ён у склад трыбунала, які зрабіў зверскую расправу над удзельнікамі замаху на Гітлера.

Шэф заходненямецкай нацыянал-дэмакратычнай партыі фон Тадэн атрымоўвае багаты плён з так падрыхтаванай глебы. «На нашым баку ўжо больш 1200 служачых бундэсвера», — заявіў ён. Ваенныя эксперты гэтай партыі клянуцца, што на выбарах у баварскі ландтаг 20 працэнтаў усіх, хто галасаваў за гэту партыю — былі салдаты. А ў раёне Зонтхофен іх было нат' 60 працэнтаў.

Кіраўнікі гітлераўскай эканомікі, якія жывуць і да гэтага часу — роўна 112 чалавек — зноў займаюць вядучыя пазіцыі ў заходненямецкай гаспадарцы або ў дзяржаўным апараце. І гэтак жа, як яны ў свой час фінансавалі Гітлера, яны фінансуюць сёння фон Тадэна. Ды хто тут можа быць ворагам фон Тадэна ў гэтай дзяржаве? Не, не Кізінгер, які ў свой час працаваў у аддзеле палітычных радыёперадач у гітлераўскім міністэрстве замежных спраў. І не прэзідэнт Любке, які падпісваў планы будаўніцтва канцлагераў, што даказана апошнім часам без ніякіх сумненняў.

У сваёй сферы панавання нямецкі імперыялізм, магчыма, выпусціць на свет яшчэ не аднаго фюрэра. Але далей сваіх граніц яму не прайсці!

Французская газета «Камба» выказала думку шырокіх колаў зарубежнай грамадскасці, калі яна напісала 18 лістапада 1967 года:

«Ці збіраецца Захад і далей ігнараваць Германскую Дэмакратычную Рэспубліку, якая з'яўляецца, безумоўна, на аснове дзяржаўнай дактрыны — якой бы думкі не прытрымлівацца адносна палітыкі яе ўрада — рашучым праціўнікам неанацызму? Гэта адзіная дзяржава, якая заявіла: «Нельга дапусціць, каб калі-небудзь яшчэ з нямецкай зямлі была развязана вайна»...

(а-ся)

## УСЕПЛАНЕТНАЯ СЛУЖБА НАДВОР'Я

Поспехі службы надвор'я, асабліва ў апошні час, агульнавядомыя. Аднак нашы сіноптыкі ўсё яшчэ часта робяцца мішэнню фельетаністаў. Урэшце, службе надвор'я грэх і крыўдзіцца: другая палавіна дваццатага стагоддзя, спадарожнікі, электронныя вылічальныя машыны, якія, дарэчы, маюць тут зусім прамое дачыненне.

Адна з цяжкасцей у прадказванні надвор'я заключаецца ў тым, што метэаролагі яшчэ не могуць ахапіць адзіным позіркам усю нашу планету. Схаваныя ад іх вачэй велізарныя акіянскія прасторы і цяжкадаступныя раёны мацерыкоў раз-пораз прыносяць нечаканыя сюрпрызы. Паўстала задача стварыць адзіную, так сказаць, усепланетную сістэму назірання за надвор'ем. І такая сістэма будзе створана.

У бліжэйшыя гады ўся Зямля будзе пакрыта сеткай станцый назірання. Яны змогуць даць поўную карціну надвор'я на ўсёй нашай планеце, бо адлегласць паміж станцыямі не будзе перавышаць тысячы кіламетраў на сушы і паўтары тысячы — у акіяне. У гэту сістэму ўвойдуць і метэаралагічныя спадарожнікі. Усе звесткі аб надвор'і будуць збірацца ў трох галоўных цэнтрах — Маскве, Вашынгтоне і Мельбурне і ў некаторых больш дробных цэнтрах.

Спецыялісты лічаць, што такая сістэма назірання дапаможа рэзка павысіць дакладнасць доўгатэрміновых прагнозаў, а таксама дасць магчымасць вызначыць шляхі, як у далейшым можна будзе ўздзейнічаць на надвор'е і змяняць яго ў патрэбным напрамку.

## Лечаць зубы без болю

Што такое боль зубоў, ведае амаль кожны. Яшчэ большы страх адчуваецца перад дэнтыстычным «свідравальным» станком. Аказваецца, што ў хуткім часе боль пры свідраванні зубоў пяройдзе да мінулага. У Маскве выпрадукавана першую партыю апаратаў «АСБ-2» для так званай флюктуарызацыі г. зн. дзеля ўстаранянння болю зубоў.

Новы прынцып лячэння заключаецца ў тым, што апарат «АСБ-2» мае імпульсны электрычны генератар, які стварае электрычны ток аб зменнай частаце. Да поласці рота ўводзяцца электроды, праз якія працякае імпульсны ток. Іменна гэтая электрызацыя дзейнічае абязбольваюча.

Трэба напомніць, што ў медыцыне ўжо прымянялася электрычны ток. Аднак дагэтуляшнія апараты стваралі зменны ток аб сталай частаце. Арганізм хутка прывыкаў да такіх імпульсаў, што паменшвала паспяховасць стаматалагічнай працэдуры.

(А-ка)

**На здымку: Стаматалагічны апарат да абязбольвання «АСБ-2» з абсталяваннем.** →

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

Лайкавыя пальчаткі любога колеру не трэба мыць з мылам, бо яны ад гэтага робяцца бялёсыя. Іх мыюць у цёплай, вельмі салёнай вадзе, а пры паласканні ўліваюць у ваду крыху воцату.

Не выціскаць, не выкручваць! Мокрыя пальчаткі надзеньце на рукі і так патрымайце некалькі мінут, каб яны аднавілі сваю першапачатковую форму. Паўтарыўшы такую працэдуру некалькі разоў, пальчаткі можна пакласці сушыць.

Вельмі вузкія пальчаткі можна расшырыць, загарнуўшы іх у вільготную тканіну і пакінуўшы так на некаторы час.



## НОВЫ МЕТАД НАВУЧАННЯ

Пра цікавы новы метад вывучэння замежных моў расказаў часопіс «Знание — сила». Прапанаваў яго балгарскі ўрач — псіхіятр Георгій Лазанаў. Сутнасць новага метаду заключаецца ў тым, што вучні на ўроку сядзяць у стане максімальнай расслабленасці, быццам «адпачываюць», а настаўнік пэўным чынам паўтарае ім словы і сказы, якія трэба вывучыць. Над сваім метадам Лазанаў працуе ўжо 12 гадоў. Грунтуючыся на эксперыментах, ён сцвярджае, што вучні па яго метаду могуць запомніць нават да 500 (!) слоў за ўрок. Добрыя вынікі атрыманы пры вывучэнні такім жа чынам матэматыкі, фізікі, біялогіі. Спецыяльна створана ўрадавая камісія пацвердзіла вывады доктара Лазанава.

Цяпер для вывучэння новага метаду створан навукова-даследчы цэнтр.

**Мала, але цікава**

## ЗМЯІНАЯ ФЕРМА

Каля кілаграма змяінага яду будзе штогод даваць змяіная ферма, пабудаваная паблізу сталіцы Узбекістана. Прыкладна такую колькасць яду цяпер атрымліваюць ва ўсіх змеегадавальніках краіны.

Новы гадавальнік, які мае тры вальеры з агульнай плошчай у 1.200 квадратных метраў, прызначаецца для гюрз — самых ядавітых змей Сярэдняй Азіі. Яд іх асабліва цэняць медыкі.




Па горадзе ідзе чалавек з партфелем. Быў ён ужо ў дзвюх канспірацыйных кватэрах. Правалены. Засталася трэцяя, апошняя. Ён доўга ходзіць па вуліцах гэтага вялікага партовага горада паблізу выспы Пенемюндэ. Праваленыя кватэры! Вядома, людзі, якія былі ў іх, схоплены. Мабыць нехта ўжо не вытрымаў, пачаў гаварыць... Значыць: асцерагайся, каб не прывесці агентаў гестапа і ў апошняе сховішча... калі гестапа ўжо не там!

Жывым ён не здасца. У партфелі ў бялізну загорнута ўзрыўчатка. Ручка партфеля надарваная. Яна ледзь трымаецца, і да яе падвязаны шнур дэтанатара. Дастаткова тузануць ручку — і выбух размяце ўсіх, хто акажацца па-суседску. Вось чаму партфель ён носіць пад пахай.

Пад вечар ён падыходзіць да трэцяй канспірацыйнай кватэры. З горада яму не выбрацца: яго, вядома, чакаюць і на вакзале, і ля прыпынку міжгародняга аўтобуса. Гэты дом — апошняя надзея.

Дом вялікі, у ім шмат кватэр. Кожны паверх акружаны суцэльным балконам, на які выходзяць дзесяткі дзвярэй. Знізу да балконаў ідуць вонкавыя сходкі.

Змяшаўшыся з натоўпам, ён двойчы праходзіць побач дома. Вядома, ёсць небяспека, што яго прыкмецяць, калі за домам назіраюць. Але яшчэ больш небяспечна ісці без разведкі.

Учапіўшыся ў ручку прыціснутага пад пахай партфеля, ён ступае на сходкі. Пяройдзены першы паверх, другі. Яшчэ крыху — і ён ля мэты. Ногі быццам чыгунныя. Патрэбныя дзверы — першыя справа. Ён аблегчана ўздыхае: каля дзвярэй знак бяспечнасці — вяровачны дыванік павернуты вуглом. Можна ўваходзіць.

Выпусціўшы ручку партфеля, ён націскае на званок. Дзверы адчыняюцца, і ён бязгучна падае ад знішчальнага ўдару ў горла.

З кватэры выскачылі трое, схапілі яго, налажылі яму наручнікі.

А да дома ўжо пад'ехаў паліцэйскі аўтамабіль.

Яго даставілі ў Берлін, у цэнтральную рэзідэнцыю тайнай палітычнай паліцыі на Прынц-Альбрэхтштрасэ, упіхнулі ў кабінет следчага.

Ужо ноч. Лямпа з рэфлектарам пастаўлена так, што святло ўпіраецца ў твар арыштаванаму.

Той, што за сталом, задае пытанні.

Чалавек маўчыць. Для яго канец. Тое, што ў момант арышту не было выбуху, значыць: гестапаўцы выявілі сакрэт партфеля. Або ведалі аб ім... І хоць схоплены імі чалавек дакументаў не мае, яны хутка ва ўсім разбяруцца. Адзінае, што яму застаецца, — гэта маўчаць. Следчы паўтарае пытанні. Адказу няма. Тады ён устае, гасіць рэфлектар і падсядае да арыштаванага.

— Пазнаеш мяне? — гаворыць ён. — Лепш глядзі, Паўль Прозе!

Чалавеку ў наручніках і раней здавалася: ён ужо чуў гэты голас. Але святло рэфлектара асляпляла, і следчага ён разгледзеў толькі цяпер. Пазнаў і пакрыўся халодным потам. Перад ім сядзеў адзін з падпольшчыкаў. Некалькі месяцаў назад яго ўвёў у арганізацыю намеснік Прозе, стары камуніст, заўсёды такі недаверлівы, асцярожны. Як жа ён памыліўся!

— Падла! — гаворыць Прозе і плюе ў твар правакатару.

Той ускіпеў, замахнуўся. Але адчыняюцца дзверы. У пакой уваходзяць.

— Устаць! — крычыць канваір.

Першым увайшоў Генрых Гімлер. Ён адклаў усе справы і прыбег сюды, каб прысутнічаць пры допыце кіраўніка вялікай арганізацыі антыфашыстаў, за якім палюваў звыш года.

Гімлер і суправаджаючы яго обергрупенфюрэр СС Кальтэнбрунер сядаюць за стол. Следчаму загадана працягваць.

Зноў сыплюцца пытанні. Арыштаваны маўчыць. Тады Кальтэнбрунер гаворыць следчаму некалькі слоў. Той здымае трубку тэлефона. Праз мінуту эсэсаўцы ўпіхаюць у пакой чалавека. Яго ставяць тварам да Паўля Прозе.

— Святло! — гаворыць Кальтэнбрунер.

Канваір ля дзвярэй паварочвае ўключацель. Паўль Прозе моўчкі глядзіць на арыштаванага. Гэта той самы падпольшчык, што ўвёў у арганізацыю гестапаўскага шпіка. Ён пабіты да непазнання.

Чалавек хістануўся. Ахоўнікі падхапілі яго, выцягнулі за дзверы. А на змену ўжо вядуць другога.

І так — на працягу гадзіны.

Звыш гадзіны спатрэбілася для таго, каб прадэманстраваць Паўлю Прозе ўсіх таварышаў па разгромленай арганізацыі.

Потым следчы ўзнаўляе допыт.

Арыштаваны маўчыць.

— Гавары, — паўтарае гестапавец. — А не то пашкадуеш, што нарадзіўся.

Прозе падымае галаву:

— Што я павінен сказаць?

— Ты бачыў усіх, каго ўзялі. Дзе рэшта?

— Гэта ўсе, — гаворыць арыштаваны. — Вы ўзялі ўсіх.

Гімлер і Кальтэнбрунер, маўклівыя, непарушныя, сядзяць заклаўшы нагу за нагу. Следчы ўмела вядзе допыт, і яны не ўмешваюцца. Яны ведаюць, арыштаванаму ёсць што сказаць. Вы-

# ТРЫБУНА чытачоў

## НОВАПАБУДАВАНЫ БАНК



**Андрэй Міхноўскі — кіраўнік спулдзельчага банка на фоне новапабудаванага будынка.**

26 мая ў Мілейчыцах адбылося ўрачыстае адкрыццё новапабудаванага спулдзельчага банка. Пры пабудове яго сотні гаспадароў з Мілейчыц і акалічных вёсак удзельнічалі ў грамадскім чыне, вартасць якога акрэсліваецца на 50 000 злотых. Арганізацыйную працу чынаў праводзіў былы актывіст «Грамады», а сёння доўгагадовы кіраўнік Банка СОП у Мілейчыцах Андрэй Міхноўскі.

Услугі Мілейчыцкага банка даволі вялікія. У 1967 годзе 2 374 гаспадароў атрымалі пазыкі для актывізацыі і развіцця сельскай гаспадаркі.

Найбольш кароткатэрміновых пазык атрымалі сяляне на кантрактацыю чатырох збожжавых культур і на развіццё жывёлагадоўлі.

Тэкст і фота
**Сяргей Крэйза**
Мілейчыцы

## ГРАМАДСКІ ЧЫН

25 мая ў вёсцы Патока і Тапаляны, прыналежных да ГРН Фольваркі Тыльвіцкія, быў праведзены грамадскі чын. Людзі гэтых вёсак прыступілі да пабудовы дарогі на адрэзку Патока — Тапаляны. Разам з дарослымі жыхарамі гэтых вёсак працавалі школьнікі з Тапалян і Патокі. Варта адзначыць, што тапалянскія школьнікі зрабілі многа больш, чым дарослыя жыхары абедзвюх вёсак. Работа адбывалася пад кіраўніцтвам настаўнікаў і дарожнага працаўніка Баляслава Окштэля.

**Мікола Краўчук**
Патока

---

лаўлена прыгнятаючая частка арганізацыі, але не ўся. Гімлера асабліва цікавіць адзін з членаў арганізацыі — жанчына. Яна вельмі добра заканспіравана, звязана толькі з кіраўніком групы. Значыць, выконвае асабліва важную работу. Але гэта ўсё, што ўдалося ўстанавіць агенту.

Хто яна, дзе знаходзіцца, якога роду дзейнасцю займаецца — тайна. Тайна Паўля Прозе.

— Дзе рэшта? — наступае следчы.

— Вы арыштавалі ўсіх, — паўтарае Прозе.

— Хлусіш, — раптам гаворыць Гімлер. — Хлусіш бяссорамна. Усё роўна мы возьмем усіх. — Ён робіць паўзу. — І тваю памочніцу таксама.

Прозе ўнутрана сціснуўся. Што вядома гестапаўцам? У галаве куча здагадак. У яго групе дзве жанчыны. Абедзве дзейнічалі ізалявана ад арганізацыі, у сакрэтных установах нацыстаў. Апрача яго толькі намеснік кіраўніка арганізацыі ведае іх прозвішчы. Але толькі Прозе меў з імі кантакт. Гімлер сказаў: памочніцу. Значыць, звесткі, якія мае гестапа, датычаць адной з іх. Якой?

У пакой уваходзіць афіцэр. Пераглянуўшыся з Гімлерам, перасякае кабінет, кладзе перад начальнікам паперу.

Заглянуўшы ў яе, Гімлер адкідваецца ў крэсла.

— Ну, — гаворыць ён, — што вы можаце сказаць аб Марце Рышэр?

**Працяг будзе**

## КУРС ДЛЯ МАТАЦЫКЛІСТАЎ

Курс матацыклістаў у Луцэ (Гайнаўскі павет) вядзе інструктар ЛОК-у ў Гайнаўцы Тадэуш Штукевіч. Ахвотных вадзіць матацыкл сабралася тут 19 асоб, найбольш з вёскі Лукі. Нядаўна адбыліся ўступныя экзамены, да якіх курсанты добра падрыхтаваліся. Неўзабаве адбудзецца апошні экзамен перад дзяржаўнай камісіяй. **Ц. Я.**

## «ЛЯВОНІХА» Ў БЕЛКАХ

29 мая г. г. упершыню прыбыла ў вёску Белкі, што ў Гайнаўскім павеце, эстрада «Лявоніха». «Лявоніха» вельмі ўсім спадабалася. У невялікай школьнай зале было поўна людзей.

Найлепей гледачам спадабаліся артысты: Марыся Мораз і Юрка Гаўрылюк. Жыхары вёскі Белкі запрашалі эстраду «Лявоніха», каб часцей прыязджала са сваімі выступленнямі да іх, а артысты эстрады пажадалі жыхарам вёскі шчаслівага жыцця.

**«Ярош»**
Гайнаўскі павет

## БЕЛЬСКІ РАДЫЁВУЗЕЛ

Рэдакцыйны камітэт мясцовых радыёгутарак, які знаходзіцца пры прэзідыуме ПРН у Бельску Падляшскім, дапамагае павятовым уладам выконваць свае функцыі. Радыёвузламі ў Бельскім павеце ахоплены два гарады (Бельск, Бранск) і 193 вёскі. Колькасць гутарак праз радыёвузлы з кожным годам павялічваецца. Да 28 мая гэтага года рэдакцыйны камітэт пры прэзідыум ПРН падрыхтаваў 56 розных гутарак. Найбольш радыёгутарак на сельскагаспадарчыя тэмы.

У рамках мясцовых радыёперадач чытаюцца гутаркі і на беларускай мове. Што праўда, іх пакуль што зусім нямнога. Прачытана толькі 3. Вось таму радыёкамітэт разгледзіць магчымасці павелічэння іх колькасці.

Перадачы бельскага радыёвузла можна пачуць кожны дзень у гадзінах 7.30—7.45 і 19.05—19.20, а ў нядзелі і святы ад гадзіны 8.15 да 8.30.

**Ю. Лапінскі**
Бельск Падляшскі




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Пазнаёмілася я з хлопцам з суседняй вёскі, які называецца Метэк. Мы з ім сябравалі 2 гады. Летам кожную нядзелю ён прыязджаў да мяне, а зімой час ад часу. Аднаго разу я паслала яму запрашэнне на забаву ў нашую вёску, але ён не прыехаў, толькі перадаў праз аднаго хлопца з нашай вёскі, што прыедзе ў наступную нядзелю. Але я не паверыла і пайшла з дзяўчатамі на забаву ў суседнюю вёску. Калі вярнулася з яе, ён быў у мяне дома. Ад гэтага часу больш не паказаўся. Я сумавала, цярпела, а потым пазнаёмілася са Слаўкам. Ён мне менш падабаецца ад Метка, але нічога не зробіш. І вось па нейкім часе я ізноў сустрэлася прыпадкам з Меткам, які бачыў, што я з іншым хлопцам. Аднак падыйшоў да мяне і гаварыў, а на адыходнае сказаў, што ў наступную нядзелю мы сустрэнемся.

Так і было. Я была ізноў са Слаўкам, але ён, бачачы гэта, перапрасіў мяне і адыйшоў, і мы асталіся з Меткам. Мы прабачылі адзін аднаму. Мы ізноў угаварыліся на нядзелю, але Метэк не прыехаў. Парай, што я маю рабіць, ці чакаць на яго прыезд, ці выслаць якое-небудзь запрашэнне, ці вярнуцца да Слаўка, які на гэта і чакае. Я шкадую Метка. Не ведаю, як паступіць пры спатканні з Меткам, мо не адзывацца?

**Ліна з Бельшчыны**

**Дарагая Лііа!** Пачакай. Не спяшай. Мо сапраўды Метэк меў паважную прычыну і не мог прыехаць. Праз нейкі час справа выясніцца. Калі пераканаешся, што Метэк хлусіць, дык нічога іншага табе не застаецца, як пагадзіцца з тым, што не варта заварочваць сабе галавы такім хлопцам. Ведай, адно: калі Метэк кахае цябе, напэўна прыедзе. А што са Слаўкам? Калі ты яго не кахаеш, дык не зводзь хлопца. Сама ж пераканалася, як цяжка цярпець. Будзь яму толькі сяброўкай.

Жадаю ўсяго найлепшага
**Сэрцайка**

## ЛОК У ЛЯЎКОВЕ

ЛОК у Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) заснаваўся ў пачатку г. г. Запісалася ў яго каля 30 асоб: моладзь з ліцэяў, тэхнікумаў і тая, што пасля заканчэння пачатковай школы асталася працаваць на гаспадарцы. ЛОК-аўцы актыўна ўдзельнічаюць у розных працах, заўсёды ў камплекце прыходзяць на заняткі.

30 мая г. г. мелі мы заняткі па стралянню. Дзяўчаты вельмі ж перажывалі, калі прыйшлося ім страляць упершыню. Заняткі гэтыя вёў афіцэр у рэзерве, настаўнік ляшуцкай школы Аляксей Харкевіч.

На тэрыторыі ГРН Ляўкова дзейнічае таксама гурток ЛОК-у ў вёсцы Ляшукі, дзе запісалася 24 асобы. Ляшуцкія ЛОК-аўцы таксама добра выпалі ў стральбе. **Янка Цялушэцкі**




■ Вучань 8-га класа з вёскі Прушанка Старая ў Бельскім павеце захацеў пакатацца матацыклам, не маючы права на кіраванне механічным транспартам. У час гэтай лёгкадумнай гульні наехаў на плот, разбіў матацыкл і сам цяжка параніўся. Без права язды таксама ехалі матацыкламі Віктар Малайка з вёскі Рыкачэва і Браніслаў Вільчынскі з вёскі Францкава Буда ў Сакольскім павеце. На палявой дарозе іх матацыклы на вялікай хуткасці сутыкнуліся лоб у лоб. У выніку гэтага абодва матацыклісты былі цяжка паранены. Падобны выпадак здарыўся на лясной дарозе ля Страблі ў Бельскім павеце. Тут матацыклісты Ян Аксімовіч, якому 23 гады, з вёскі Самулкі Малыя сутыкнуўся са Здзіславам Заброцкім, якому 18 год, з вёскі Самулкі Вялікія. Абодва былі цяжка паранены. Анатоль Пракапюк, якому 28 год, з вёскі Катоўка ў Гайнаўскім павеце пад вёскай Скупава зваліўся з матацыклам у прыдарожны роў. У выніку гэтага цяжка параніўся. Падазраваюць яго ў тым, што быў п'яны.

■ Ноччу, з 2-га на 3-га чэрвеня ў будынках старэнькага дзядзькі Язэпа Нікалаюка, якому 74 гады, з вёскі Канюкі ў Бельскім павеце ўзнік пажар. Ад яго агонь перакінуўся на суседнія будынкі. Згарэла 8 клуняў і 5 іншых гаспадарчых будынкаў. Страты панёслі 7 гаспадароў на суму 460 тысяч злотых. У вёсцы Кругляны ў Сакольскім павеце таксама згарэла 3 клуні і 1 хлеў. Агонь праўдападобна зацярушылі дзеці, якія забаўляліся запалкамі. Страты — 100 тыс. зл.

■ Ян Паўтарак, якому 26 год, з вёскі Марчэва ў Сямяціцкім павеце ўдарыў цэглай у твар Сцяпана Невядомскага. За гэтае хуліганства яго арыштавалі.

■ Віктар Яцэвіч, якому 70 год, з Беластока 3-га чэрвеня г. г. зайшоў у катлоўню спартыўнай залы «Ягелонія», дзе меў знаёмых апальшчыкаў. Пасля нейкага часу знайшлі яго там мёртвага. Лекар устанавіў, што ён атруціўся чадам.

**Асака**

## У ГОНАР З'ЕЗДУ ПАРП



У жыхары вёскі Крывяцічы ў Бельскім павеце пастанавілі адзначыць з'езд ПАРП грамадскай працай. У маі прыступілі яны да рэалізацыі свайго абавязацельства — направіць дарогу, якая спалучае Крывяцічы з Орляй. На чале з солтысам Рыгорам Сулімам і сакратаром партыйнай арганізацыі Ігарам Рыбачуком прыбыло на дарожны грамадскі чын 80 чалавек. Для важэння пяску былі выкарыстаны 4 трактары мясцовага сельгасгуртка.

**Павел Зінкевіч**
Бельск Падляшскі
Фота аўтара

## ЯК У ОРЛІ?

Прэзідыум ГРН у Орлі недастаткова забяспечвае рэалізацыю заданняў Грамадскай рады нарадовай у галіне сельскай гаспадаркі.

Плёны збожжавых раслін за 1967 год былі тут ніжэйшыя, чым сярэдняя ў павеце. Падобна сітуацыя выглядае і ў жывёлагадоўлі. Састаў жывёлагадоўлі на 100 гектараў і прадукцыя мяса адстае тут ад сярэдняй у павеце.

Аналізуючы працу прэзідыума **ў Орлі**, прэзідыум ПРН у Бельску звярнуў на гэта асаблівую ўвагу і прыняў адпаведныя пастановы. (ак)

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Szkice węglem'' (polski), 25—26. ,,Druga młodość cioci'' (węgierski), 27—28. ,,Julia, Anna, Genowefa'' (polski), 29—30.

**Дубіны**

,,Chewsburska ballada'' (radz.), ,,Po wielkiej burzy' (szwajcarski), 29—30.

**Нараўка**

,,Westerplatte'' (polski), ,,Tygrys lubi świeże mięso'' (franc.), 26—30.

**Чыжы**

,,Kryptonim Nektar'' (polski), ,,Mętna woda'' (węgierski), 26—30.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Na tropach szpiega'' (radz.), ,,Po kruchym lodzie'' (radz.), 26—30.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

,,Marysia i Napoleon'' (polski), ,,Kopciuszek w potrzasku'' (franc.), 26—30.

**Райск**

,,Dr Fabrizus działa'' (NRD), 26—30.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Ach ci młodzi'' (węgierski), ,,Julia, Anna, Genowefa'' (polski), 25—28.

**Міхалова**

,,Inspektor Morgan prowadzi śledztwo'' (angl.), 25—26. ,,Mój przyjaciel Delfin'' (USA), 27—28. ,,Poznańskie słowiki'' (polski), 29—30.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Przybycie tytanów'' (polski), 25—26. ,,Siódmy przysięgły'' (franc.), 27—28. ,,10 małych indian'' (angl.), 29—30.

**Шудзялава**

,,Kamo, znany osobiście'' (radz.), ,,Kamo niebezpieczna misja'' (radziecki), 26—30.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Bumerang'' (polski), ,,Ulica Nadmorska'' (radz.), 26—30.

**Новы Двор**

,,Kopciuszek w potrzasku'' (francuski), ,,Po wielkiej burzy'' (szwajcarski), 29—30.

**Ліпск**

,,Westerplatte'' (polski), ,,Człowiek bez paszportu'' (radz.), 29—30.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 7066

